Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ

Пятніца, 12 сакавіка 1999 г. № 27 (558) Кошт свабодны

## Ганчара не зламалі!

**Учора ў другой палове дня старшыню Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара ўсё ж вызвалілі з ізалятара на Акрэсціна, дзе ён правёў 10 сутак, аднак не выключана, што ў хуткім часе ён зноў апынецца за кратамі.**

Перад вызваленнем Ганчара адвезлі ў следчае ўпраўленне гарадской міліцыі і абвесцілі, што ўзбуджаная крымінальная справа супраць усіх членаў Цэнтрвыбаркама. Старшыні выбарчай камісіі і яе супрацоўнікам інкрымінаваны 190-ы артыкул Крымінальнага кодэкса — «прысваенне службовых паўнамоцтваў».

Акалічнасці вызвалення старшыні Цэнтрвыбаркама нагадваюць благі дэтэктыў. Улады зрабілі ўсё, каб урачыстая сустрэча, падрыхтаваная Ганчару ягонымі сваякамі, сябрамі, палітыкамі і журналістамі, не адбылася. З самай раніцы больш за пяць гадзінаў некалькі дзесяткаў сустракаючых стаялі пад мокрым снегам побач з брамай размеркавальніка, тым часам як Ганчара ў адной кашулі міліцыянты высадзілі на Лагойскім тракце і ён сам потым дабіраўся да дому на вуліцы Куйбышава.

Журналісты паспрабавалі сустрэцца са старшынёй Цэнтрвыбаркама, аднак у яго дома яны пагутарылі толькі з жонкай Ганчара. Яна выйшла да журналістаў у слязах і паведаміла наступнае. *«Віктар Ганчар знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане, ён да апошняга дня адмаўляўся ад ежы, яму прымусова ўводзілі нейкі раствор. Сёння яго вазілі па горадзе ў аўтобусе, прыкаваўшы да поручняў наручнікамі».* Зінаіда Ганчар сказала, што прэс-канферэнцыю Віктар Іосіфавіч паспрабуе арганізаваць у панядзелак, а пакуль ён перадае падзяку ўсім, хто падтрымаў Цэнтрвыбаркам і яго старшыню.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Галадоўка ў штаб-кватэры

10 сакавіка асабісты сакратар старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара Кацярына Антонік, падчас знаходжання ў офісе кансультатыўна-маніторынгавай групы АБСЕ ў Мінску зрабіла заяву, што яна абвяшчае сухую галадоўку да таго моманту, пакуль В.Ганчар не выйдзе на волю або не будзе шпіталізаваны ў прысутнасці жонкі.

Падчас галадоўкі ў місію прыбыла сп-ня.Ганчар, якой намеснік старшыні місіі АБСЕ сп.Кляйнер афіцыйна паабяцаў прымяніць фізічную сілу да сп-ні.Антонік з тым, каб яна пакінула тэрыторыю місіі. Пасля гэтага Зінаіда Ганчар папрасіла Кацярыну Антонік пакінуць негасцінны офіс місіі АБСЕ.

Сп-ня. Антонік працягвала галадоўку, пакуль не стала дакладна вядома аб вызваленні В.Ганчара з-пад варты.

**М.В.**

## Візіт у Кіеў

**Сёння прэзідэнт Лукашэнка збіраецца ў Кіеў з двухдзённым візітам, падчас якога будуць абмеркаваныя пытанні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.**

Мяркуецца разгледзець пагадненні аб даўгах, аб міжнародных аўтамабільных зносінах і ўмовах транзіту беларускіх грузаў з выкарыстаннем партоў у Адэсе.

Напярэдадні візіту ўкраінскі ўрад выдзеліў з дзяржрэзерваў 10 тысяч тон мукі для пастаўкі ў Беларусь. Украіна гатовая прадаць нам цукар, алей, віно, а таксама метал, кокс, іншую сыравіну і прадукцыю.

**А.Д.**



## АБСЕ: Улады павінны захоўваць дэмакратычныя прынцыпы

**Учора міністэрства замежных справаў распаўсюдзіла адказ на заяву дзеючага старшыні АБСЕ Кнута Валебека па сітуацыі ў Беларусі.**




Як гаворыцца ў гэтым дакуменце, МЗС «уважліва азнаёмілася» з заявай дзеючага старшыні АБСЕ (гэты працэс цягнуўся больш тыдня). Нагадаем, спадар Кнут Валебек 3 сакавіка выказаў занепакоенасць арыштам старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара і членаў ЦВК. Па словах дзеючага старшыні АБСЕ, «прычынай арыштаў з'яўляецца канстытуцыйная спрэчка паміж урадам Беларусі і апазіцыяй». Спадар Валебек лічыць, што «гэтую сур'ёзную канстытуцыйную спрэчку неабходна вырашыць як мага хутчэй, не прыбягаючы да канфрантацыйнай і недэмакратычнай практыкі». Як піша далей дзеючы старшыня, АБСЕ дапамагае «пазбегнуць далейшых канфліктаў паміж бакамі і ўстанавіць палітычны дыялог, каб знайсці згоду па канстытуцыйным пытанні ў Беларусі». Спадар Кнут Валебек заклікаў беларускія ўлады «следаваць такім дэмакратычным прынцыпам як свабода сходаў» і нагадаў, што апазіцыя і ўрад «павінны прытрымлівацца канструктыўнага падыходу».

Беларускае міністэрства замежных справаў пацвердзіла, што ўрад «гатовы да дыялогу з апазіцыяй і зацікаўленымі міжнароднымі арганізацыямі», але ў тым выпадку, калі яны прызнаюць вынікі рэферэндуму 1996 года. На думку знешнепалітычнага ведамства дзеянні апазіцыі «незаконныя», а «канстытуцыйнвгв крызісу» няма.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Багданкевіч: стабілізацыю зменіць інфляцыя

**Стабілізацыя рынкавага курсу амерыканскага долара да безнаяўнага беларускага рубля не носіць доўгачасовага характару і можа змяніцца яго ростам ужо ў пачатку красавіка.**

Такое меркаванне выказаў былы кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі прафесар Станіслаў Багданкевіч.

Па ягоных словах, зараз цяжар фінансавання пасяўной кампаніі перакладзены на плечы камерцыйных банкаў, аднак банкаўская сістэма краіны не ў стане задаволіць усе патрэбы аграпрамысловага комплексу, і Нацыянальнаму банку прыйдзецца пайсці на эмісію. Акрамя таго, стабільнасць абменнага курсу немагчымая без рэфармавання іншых галінаў эканомікі. Адсутнасць рынкавых пераўтварэнняў прывядзе эканоміку да стагнацыі і запатрабуе новых грашовых ўліванняў, і гэта «зрушыць» курс уверх і раскруціць інфляцыйны махавік.

Па словах Станіслава Багданкевіча, глыбінныя прычыны, якія не дазваляюць забяспечыць устойлівую ста-більнасць курсу, — умяшанне дзяржавы ў працэс цэнаўтварэння, адсутнасць свабоднага ад адміністравання валютнага рынку, нізкая рэнтабельнасць арганізацыяў вытворчасці і гандлю.

Як заявіў С.Багданкевіч, на дынаміку абменнага курсу паўплывае і павышэнне памеру мінімальнай заработнай платы, якое, па некаторых звестках, можа адбыцца ўжо ў красавіку.

*БелаПАН*

## Дэмакраты на выбары не прыйдуць

**У сераду Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў Беларусі на сваім паседжанні прыняла заяву ў дачыненні да выбараў у мясцовыя органы ўлады, прызначаных на 4 красавіка.**

*«Гэтай акцыяй, —* гаворыцца ў заяве, *— кіруючы рэжым спрабуе легітымізаваць сябе ў вачах цывілізаванага свету».* Рада падкрэслівае, што закон аб выбарах *«дае шырокія магчымасці вертыкалі для фальсіфікацыі выбараў».* Ужо цяпер з соцень дэлегаваных прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацыяў толькі адзінкі трапілі ў склад выбарчых камісіяў. Апроч таго, *«улады беспадстаўна адмовілі ў рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты пераважнай большасці незалежных прэтэндэнтаў, якія вылучаліся шляхам збору подпісаў».* Такім чынам, лічаць аўтары заявы, значная частка грамадства, якая прытрымліваецца дэмакратычных перакананняў, пазбаўленая магчымасці прагаласаваць за сваіх кандыдатаў. Нягледзячы на вялікую колькасць кандыдатаў у некаторых акругах, ужо відавочна: выбары 4 красавіка будуць безальтэрнатыўнымі.

Улады баяцца, што ўдзел у галасаванні возьме менш за палову выбаршчыкаў, і фарс будзе сарваны. Каб пазбегнуць гэтага, за кожным выбарчым участкам замацаваныя дзяржустановы і школы, абавязаныя любой цаной забяспечыць яўку людзей. Праўвядзенне галасавання на працягу пяці дзён дае для гэтага шырокія магчымасці. Каардынацыйная Рада вырашыла арганізаваць дзейсны кантроль за выбарамі, каб не дапусціць фальсіфікацыі. Дэмакраты, аднак, заяўляюць, што не прымуць удзел у *«фактычна безальтэрнатыўным галасаванні 4 красавіка».*

**А.Д.**

## Прыедуць назіральнікі з Украіны

Народна-дэмакратычная партыя Украіны ў спецыяльнай заяве выказала абурэнне рэпрэсіямі з боку афіцыйных уладаў Беларусі ў дачыненні да членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі, якая створана рашэннем Вярхоўнага Савета 13-га скліканння.

*«Мы выказваем салідарнасць з тымі палітычнымі сіламі Беларусі, якія насуперак рэпрэсіям цвёрда стаяць на пазіцыях адстойвання палажэнняў Канстытуцыі 1994 года, прызнанай еўрапейскай і сусветнай супольнасцю»,* — указваецца ў заяве. Кіраўніцтва партыі прызнае легітымнасць прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на 16 траўня 1999 года, і заяўляе аб гатоўнасці ўзяць у іх удзел у якасці назіральнікаў.

Кіраўніцтва партыі звяртае ўвагу органаў выканаўчай і заканадаўчай улады Украіны на тое, што тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі заканчваецца 20 ліпеня 1999 года. *«З юрыдычнага пункту гледжання, —* адзначаецца ў заяве, *— гэта азначае, што з гэтага моманту А.Лукашэнка страціць права прадстаўляць Беларусь на міжнароднай арэне, а дакументы, падпісаныя ім пасля гэтай даты, не будуць разглядацца міжнароднай супольнасцю як легітымныя і абавязковыя».*

*БелаПАН*

## Рыхтуемся да крэдыту?

З 8 сакавіка ў Мінску знаходзіцца дэлегацыя міжнароднага валютнага фонду пад кіраўніцтвам спадара Гупта, начальніка аддзела падаткова-бюджэтнага ўпраўлення МВФ. Эксперты, якія прыбылі па запрашэнні кіраўніцтва нашай краіны, дадуць парады, як падтрымаць найменш абароненыя слаі насельніцтва.

Як вядома, дзеля атрымання крэдыту ад МВФ беларускі ўрад мае намер перайсці да лібералізацыі цэнаў і валютнага курса. Эксперты МВФ сустрэліся са старшынёй Нацбанка Пятром Пракаповічам, які паабяцаў прадаставіць усю неабходную інфармацыю для аб'ектыўнай ацэнкі сітуацыі. Кваліфікаваныя замежныя эксперты пабываюць у розных міністэрствах.

Чарговая місія МВФ, якая працягне перамовы па надзвычайным кампенсацыйным крэдыце (амаль 100 мільёнаў долараў), плануе зноў прыехаць у Мінск у канцы сакавіка.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Захаранка стварае саюз

**Былы міністр унутраных справаў Беларусі Юры Захаранка выступіў ініцыятарам стварэння новай грамадскай арганізацыі — Саюза афіцэраў Беларусі.**

Як лічыць Ю.Захаранка, афіцэрскі корпус краіны не абаронены ад свавольства ўладаў і вышэйшых чыноўнікаў. Па ягоных словах, аператыўныя органы МУС, закліканыя змагацца са злачыннасцю, кінутыя на барацьбу з іншадумствам, што «супярэчыць нават існуючаму закону аб міліцыі». Адной з задачаў Саюза, на думку генерала Захаранкі, якраз і стане абарона тых, хто адмовіцца выконваць супрацьзаконныя загады. Арганізацыя будзе дапамагаць сваім членам у афармленні і падачы іскавых заяваў, падтрымліваць сувязі з міжнароднымі арганізацыямі, у прыватнасці — з прафсаюзам паліцэйскіх, актыўна выкарыстоўваць магчымасці прэсы, пісьмовыя звароты да вышэйшых вайсковых і міліцэйскіх чыноўнікаў.

*«У самы кароткі тэрмін, —* адзначыў Юры Захаранка, — *мы зможам аб'яднаць не менш як дзве тысячы чалавек».* Гэта будзе палітычная арганізацыя, *«але з дысцыплінай, уласцівай людзям ваенным».*

*«Не сакрэт, —* падкрэсліў былы міністр унутраных справаў, — *што з радоў МУС пайшлі маладыя лейтэнанты, капітаны, маёры менавіта па матывах палітычных, каб захаваць свой гонар і годнасць. Аб'яднаўшы іх у арганізацыю, мы створым рэзерв для замены ў хуткім будучым тых, хто забыўся пра афіцэрскі абавязак», —* адзначыў Юры Захаранка.

*БелаПАН*

## КДБ папярэдзіла прэс-сакратара

**На мінулым тыдні прэс-сакратару Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі Аляксандру Коктышу было вынесена афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці незаконных дзеянняў.**

У гэты дзень А.Коктыш быў выкліканы ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі рэспублікі, дзе яму растлумачылі, што ў далейшым яго дзейнасць можа прывесці да крымінальнай адказнасці, прадугледжанай Крымінальным Кодэксам (змова з мэтай захопу ўлады).

*БелаПАН*

## Плешчанку судзяць за гіпсавы бюст

**У аўторак у Віцебску пачнецца судовы працэс над актывістам БНФ Уладзімірам Плешчанкам. Яго абвінавачваюць у дэмантажы бюста Сувораву перад будынкам Віцебскага ваенкамата ў ноч на 1 верасня мінулага года.**

Нагадаем, што адказнасць за дэмантаж «расійскага генералісімуса» ўзяў на сябе сталкер Мірон. Але следства лічыць, што «акт вандалізму» здзейсніў менавіта 50-гадовы Плешчанка, і вось ужо сёмы месяц яго трымаюць у следчым ізалятары. За гэты час адвакаты апазіцыянера некалькі разоў звярталіся ў суд і пракуратуру з просьбай выпусціць Плешчанку пад падпіску аб нявыездзе (паколькі ў яго вельмі благі стан здароўя), але безвынікова. Калі ж суд прызнае У.Плешчанку вінаватым, яму пагражае да двух гадоў пазбаўлення волі.

**Язэп СІНІЦКІ**

## «Еўрапейскім таварам – еўрапейскую мову»

**Акцыю пад такой назвай правялі актывісты Гомельскага абласнога маладзёжнага цэнтра «ГАРТ».**

Вядучым сусветным кампаніям, якія прадаюць сваю прадукцыю ў Беларусі — «Проктэр энд Гэмбл», «Кока-Кола», «Палароід», «Самсунг» і іншым, яны накіравалі зварот: «На ўпакоўцы вашых тавараў няма надпісу на дзяржаўнай мове нашай краіны — беларускай. Такая сітуацыя можа адмоўна адбіцца на іміджы вашай кампаніі, паколькі па-беларуску размаўляе значная частка насельніцтва, асабліва сярод моладзі».

У той жа час вытворцу булённых канцэнтратаў «Галіна Бланка», які выкарыстоўвае беларускую мову, было даслана ліст са словамі падзякі за падтрымку нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў.

*БелаПАН*

## Не далі віншаваць жанчын

**Магілёўская міліцыя не дала мясцоваму прадпрымальніку Віктару Абрамовічу павіншаваць жанчын з 8 Сакавіка.**

Прадпрымальнік хадзіў па гандлёвых палатках на стадыёне «Спартак» і раздаваў зварот да жанчын Зянона Пазьняка, а разам з ім — дарыў апельсіны.

Міліцыянты сканфіскавалі ў прадпрымальніка ўсе ўлёткі. А ў пратаколе напісалі, што Абрамовіч «распаўсюджваў дакументы, якія падрываюць дзяржаўную бяспеку».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Грошы на сяўбу знойдзе «Альфа»

**Аляксандр Лукашэнка заявіў, што яму вядомыя прозвішчы ўсіх тых, хто ў пачатку 90-х гадоў раздаваў і браў валютныя крэдыты, да гэтага часу не вернутыя дзяржаве.**

Выступаючы ў аўторак на спецыяльнай нарадзе, прэзідэнт паведаміў, што тагачаснае кіраўніцтва некаторых банкаў раздавала крэдыты «направа і налева, сябрам, сваякам, дзецям і г.д.». Такім чынам, мауляў, было выдадзена 500 мільёнаў долараў, а вернута пакуль толькі палова гэтых грошай.

Члены створанай Лукашэнкам камісіі па вяртанні крэдытаў, напрыклад, сцвярджаюць, што Міхаіл Чыгір выдаў 15 мільёнаў долараў, Віктар Ганчар атрымаў 300 тысяч, і цяпер гэтыя крэдыты ўкладаюцца ў перадвыбарчую кампанію. *«Жуллё рвецца да ўлады, хочуць быць прэзідэнтамі, прэм'ерамі, міністрамі, а мы на гэта спакойна глядзім», —* абураўся Лукашэнка. Некаторыя з іх, па яго словах, схаваліся за мяжою і фінансуюць апазіцыю з мэтай захопу ўлады ў Беларусі. Прэзідэнт абураўся дзеяннямі ўладаў Польшчы, якія да гэтага часу не выдалі «жуліка Пупейку». Ён запатрабаваў ад сваіх сілавых структураў актывізаваць дзеянні ў гэтым напрамку. Лукашэнка нават дазволіў выкарыстоўваць у аперацыях па вяртанні крэдытаў спецпадраздзяленні «Альфа» і «Алмаз».

Кінутыя ўладамі ў бок прадстаўнікоў апазіцыі абвінавачванні не жартоўныя, таму мы папрасілі былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра праясніць сітуацыю вакол нібыта не вернутых крэдытаў.

*«Прыйдзе час, і Лукашэнка ды іншыя яшчэ адкажуць за гэтую нахабную, паскудную хлусню», —* сказаў сп.Чыгір. На ягоную думку, прэзідэнт наогул нічога не разумее ў банкаўскай справе, таму падчас нарады ён і аперыраваў лічбамі ад 250 да 500 мільёнаў долараў. Па словах Міхаіла Чыгіра, падчас ягонага кіраўніцтва «Белаграпрамбанкам» без сур'ёзных гарантыяў не было выдадзена ніводнага цэнта крэдытаў, таму названая лічба ў 15 мільёнаў долараў проста абсурдная. Экс-прэм'ер сцвярджае, што з выдадзеных ягоным былым банкам крэдытаў пакуль не вернута толькі 850 тысяч долараў, але суды ўжо разабраліся з даўжнікамі і абавязалі ў самы бліжэйшы час пагасіць запазычанасць. Несвоечасовае вяртанне крэдытаў далёка не заўсёды звязанае з крыміналам. Проста некаторыя прадпрыемствы і ўстановы з-за цяжкага фінансавага і эканамічнага становішча ў краіне не могуць у тэрмін вярнуць грошы, патлумачыў Міхаіл Чыгір. На думку былога прэм'ера, Лукашэнка адчувае небяспеку сваёй уладзе ад пачатай апазіцыяй выбарчай кампаніі. «Няма ў прэзідэнта грошай і на пасяўную, вось ён і вырашыў у чарговы раз спісаць усе беды на каварных апазіцыянераў». Прымаючы рашэнне вярнуцца ў Мінск і заняцца вялікай палітыкай, Чыгір не сумняваўся ў тым, што Лукашэнка паспрабуе запэцкаць яго брудам. Але, па словах экс-прэм'ера, у яго нічога не атрымаецца, бо ва ўсім тым «кампрамаце» на Чыгіра, які кладзецца на прэзідэнцкі стол, няма «ані кроплі крыміналу».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



## Інтэлігенцыя спадзяецца на мудрасць Крамля

У Беларусі захоўваецца неадназначнае стаўленне да магчымага стварэння саюзнай дзяржавы з Расіяй. Шэраг вядомых дзеячаў навукі і культуры звярнуліся ў сувязі з гэтым з адкрытым лістом да Барыса Ельцына і Яўгена Прымакова.

*«Мы безумоўна за эканамічную інтэграцыю, усебаковыя сувязі беларускіх і расійскіх суб'ектаў гаспадарання, супрацоўніцтва ў навуковай, культурнай і іншых сферах, —* адзначаюць аўтары паслання. — *Аднак гэта не павінна суправаджацца палітычным аб'яднаннем, зваротам да практыкі канца 1922 года, калі стварайся Савецкі Саюз — гэтая практыка не вытрымала выпрабавання часам».*

Падпісанты ліста, сярод якіх паэт і дыпламат Генадзь Бураўкін, пісьменнік Янка Брыль, акадэмік Акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі навук Радзім Гарэцкі, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч і многія іншыя аўтарытэтныя ў краіне людзі, звяртаюць увагу расійскага прэзідэнта і прэм'ер-міністра на падаўленне палітычных свабодаў і эканамічны крах у Беларусі. Дзеячы навукі і культуры лічаць, што *«палітычнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй неабходнае прэзідэнту РБ Аляксандру Лукашэнку дзеля прыходу да ўлады ў новай дзяржаве, каб распараджацца багаццямі і ядзерным патэнцыялам Расійскай Федэрацыі ў сваіх глабальных авантурыстычных мэтах».*

На заканчэнне паслання ягоныя аўтары выказваюць спадзяванне на паспяховае вырашэнне гэтай сітуацыі. *«Каб не знікнуць разам са сваёй самабытнай гісторыяй і культурай з міжнароднай супольнасці, беларускі народ можа і павінен мець у сучасным свеце магчымасць свабодна развівацца ў суверэннай дзяржаве. Далучэнне Беларусі да Расіі будзе ўспрынятае беларускімі патрыётамі як акт акупацыі сваёй краіны з усімі наступствамі. Пакуль яшчэ не позна праявіць рэалізм і ўзважанасць у прыняцці адказных рашэнняў. Мы спадзяемся, Барыс Мікалаевіч і Яўген Максімавіч, на вашую палітычную мудрасць».*

*«Новые известия»*

## Увядзенне адзінай валюты ў тры этапы

**Нацыянальны банк Беларусі распрацаваў «Канцэпцыю ўвядзення адзінай валюты, фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра і агульнай банкаўскай сістэмы Саюза Беларусі і Расіі».**

Зроблена гэта ў адпаведнасці з дэкларацыяй «Аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі», якая вызначае, што да канца першай паловы гэтага года павінны быць уніфікаваныя валютнае рэгуляванне і грашова-крэдытная сістэма дзвюх краінаў, і прадугледжвае пераход да адзінай валюты.

Згодна з гэтай «Канцэпцыяй», рэалізаваць дамоўленасці кіраўнікоў дзяржаваў плануецца ў тры этапы. У першым квартале гэтага года мяркуецца часткова уніфікаваць грашова-крэдытную палітыку Беларусі і Расіі, стварыць агульны рынак капіталаў (каштоўных папераў), дасягнуць «рэальнай узаемнай канверсоўнасці валют», сфарміраваць юрыдычную аснову для уніфікацыі валютнага рэгулявання. На другім этапе — у красавіку-чэрвені 1999 года — уніфікацыя валютнага рэгулявання і грашова-крэдытнай сістэмы дзвюх дзяржаваў павінна завяршыцца, і тады ж будзе ўведзеная адзіная валюта. На трэцім этапе, у другой палове 1999 года, чакаецца стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра і «завяршэнне працэсу ўвядзення адзінай валюты». За выпрацоўку і ажыццяўленне адзінай валютнай палітыкі будзе адказваць Цэнтральны банк Саюза.

*БелаПАН*

### НАДВОР'Е

Пасля 8 сакавіка ў Беларусь вярнулася зіма. Нашая краіна апынулася ў пераходнай зоне паміж цёплым паветрам з поўдня Еўропы і халодным — з суровай Арктыкі. Такія зоны з вялікімі тэмпературнымі кантрастамі сіноптыкі называюць атмасфернымі франтамі.

Амаль трое сутак фронт праходзіў над Беларуссю, засыпаючы яе снегам. Потым прыйшоў атлантычны цыклон, уздзеянне якога дадало снегу і аслабіла марозы. Шлях цыклона ляжыць далей у цэнтральныя раёны Расіі, а Беларусь зноў адчуе подых Арктыкі.

Такім чынам, сёння амаль па ўсёй краіне, а заўтра, 13 сакавіка, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях пройдзе кароткачасовы снег з слабымі завірухамі. Тэмпература зноў панізіцца, ноччу пры праясненнях будзе да 12 градусаў марозу, днём каля 0.

У выхадныя дні, паводле прагнозу сіноптыкаў, чакаецца спыненне ападкаў, тэмпература ўначы ад - 9 да - 14, удзень — ад 1 градуса цяпла да 4 градусаў марозу.

**Вера ЧЫЖЫК,**
*інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*

# Прэзідэнцкая ліхаманка

Гісторыя — заганнае кола падобных памылак. Калі ў 1994 годзе быў абраны першы беларускі прэзідэнт, большасць простага люду і частка эліты былі перакананыя, што з'явіўся лакаматыў, які выцягне з багны на светлую прастору. Між тым саму ідэю прэзідэнцтва як лакаматыва ў незалежнасць тады прынцыпова мала хто адвяргаў. Супраць выказваўся толькі БНФ, які тлумачыў, што беларускае грамадства да прэзідэнцтва мала падрыхтаванае. Фронт, аднак, не здолеў пераканаць іншых. Больш таго, сам не ўтрымаўся ад спакусы прыняць удзел у рэкламнай кампаніі і насуперак сваім былым заявам актыўна ўключыўся ў прэзідэнцкія выбары. Што ў выніку гэтага кампрамісу здабыў Фронт? Нічога. Фронтаўскі кандыдат нават не выйшаў у другі тур, і гэтая параза была ўспрынятая грамадствам і навакольным светам не як асабісты пройгрыш Зянона Пазьняка, а як непаўнавартаснасць нацыянальных сілаў Беларусі, іх няздольнасць адказваць за лёс краіны.

У выніку з 1994 года спачатку БНФ, а потым уся дэмакратычная апазіцыя паслядоўна заціскаецца ў кут. Прычым уражанне, што стан ізаляцыі апазіцыю задавальняе. Бо ў такім становішчы зручней крычаць, бо заціснутаму больш веры, бо пабітаму больш спачуванняў, лягчэй атрымаць нейкую дапамогу. Па-за ўвагай застаецца толькі тая праблема, што вырвацца з кута на прастору, дзе ідзе сапраўдная бойка і можа з'явіцца шанец для перамогі, — амаль немагчыма. Выйсце адно — разбурыць муры, што абмяжоўваюць праваруч ды леваруч. Карацей кажучы, трэба разарваць заганнае кола, стаць іншым. Што робіцца ў нас?

1998 год стаў для апазіцыі перыядам выбару паміж бяздзеяннем і дзеяннем. Паездзіўшы два гады па еўрапейскіх сталіцах, лідэры апазіцыйнага Вярхоўнага Савета зразумелі, што яны могуць спадзявацца толькі на сябе. Трэба было наладзіць гучную акцыю. Якую? У палітычным календары, які быў складзены згодна з Канстытуцыяй 1994 года, раней за парламенцкія выбары стаялі прэзідэнцкія. Гэта і вырашылі скарыстаць адданыя закону парламентары. Вярхоўны Савет без асаблівых дыскусіяў прагаласаваў за дату выбараў чарговага прэзідэнта. Цэнтрвыбаркам быў адноўлены, і ў хуткім часе Беларусь ператварылася ў краіну двоеўладдзя. Пачатак 1999 года прайшоў пад знакам барацьбы адной дзяржаўнай структуры з іншай, пакуль слабой і ледзь бачнай, але рэальнай. Ахвярамі гэтай барацьбы ўжо сталі Віктар Ганчар і Ханс Георг Вік. Першы атрымаў ад прэзідэнта абвінавачанні ў раскраданні крэдытаў і ледзь не памёр ад сухой галадоўкі ў турме, другі заслужыў ад нашых найбольш прынцыповых апазіцыянераў мянушку «здрадніка дэмакратыі». У віну прадстаўніку АБСЕ было пастаўлена, што ён не дабіўся ад беларускага рэжыму вызвалення Віктара Ганчара. І гэта пры тым, што побач з размеркавальнікам на Акрэсціна, дзе сядзеў старшыня Цэнтрвыбаркама, за ўсе 10 сутак арышту толькі аднойчы сабраліся два дзесяткі палітычных актывістаў. Незразумела, як пасля гэтага даказаць Еўропе, што беларускі электарат спіць і марыць пра новыя прэзідэнцкія выбары ўжо у траўні?



На жаль, не толькі спадар Вік, але і іншыя назіральнікі за сітуацыяй у краіне не бачаць жаданага — каб людзі ўспрынялі рэпрэсіі супраць Ганчара і членаў ягонай камісіі як уціск слугаў народа, што ад яго імя ўзяліся рабіць справядлівую і доўгачаканую справу. Не, гэтага няма. Маўчыць гарадскі і сельскі электарат, маўчаць рабочыя. Нават рыхтуючы свае страйкі, яны патрабуюць не выбараў, а заробкаў. Што падказвае такое становішча назіральнікам?

Галоўнае, што ідэя чарговых прэзідэнцкіх выбараў грамадствам дагэтуль не запатрабаваная. Магчыма, апазіцыя і здолее «дастукацца» з гэтай ідэяй у кожны беларускі дом, Бог ёй у дапамогу, але пакуль толькі адзінкі прыгадваюць, што тэрмін першага прэзідэнцтва заканчваецца сёлета. Няўжо беларусы развучыліся лічыць да пяці, задаюцца рытарычным пытаннем апазіцыянеры, і як сапраўдныя патрыёты адганяюць ад сябе ўсе сумненні. Між тым праблема не ў матэматычных здольнасцях народа. Мы бачым фенамен, калі ў чарговы раз на працягу гэтага стагоддзя беларус пачынае баяцца не канкрэтна левых ці правых, нацыяналістаў ці саюзнікаў, а ўсіх палітыкаў, разам узятых. «Жылі ж раней без выбараў і неяк трымаліся, чаго зараз лезці?» — думае электарат. Ён ужо дакладна ведае, што паслізнуўся на былых прэзідэнцкіх выбарах, потым двойчы на рэферэндумах, жыццё з тых часоў стала горш, дык навошта слухаць палітыкаў зноў? «Хай яны самі паміж сабой разбіраюцца!»

Гэтую стомленасць выбаршчыкаў выдатна адчувае беларускі прэзідэнт. Ніхто не перашкаджае Аляксандру Лукашэнку правесці хоць сёння якія заўгодна выбары ці аб'яднаўчы рэферэндум і перамагчы ў гэтых выбарах, але ён не рызыкуе: былой бліскучай перамогі не дасягнуць, а невялікай перавагі ён баіцца больш, чым паразы. Не ўступаючы ў адкрытую перадвыбарчую барацьбу з апазіцыянерамі, Лукашэнка тым не менш пачынае дзейнічаць згодна з сучаснымі выбарчымі тэхналогіямі. А іх галоўны прынцып такі: кожны твой крок павінен быць скіраваны не на праціўніка, а на электарат. Чаму электарату надакучылі выбары? Таму, што кожны раз гэта зноў узаемныя знявагі, брудная бялізна, абвінавачанні ў карупцыі. І Лукашэнка падыгрывае такім настроям электарата. Ён, быццам бы з іншай прычыны, але вельмі своечасова абвінавачвае Віктара Ганчара і Міхаіла Чыгіра ў невяртанні крэдытаў. Зараз дзяржаўнае ТБ будзе круціць гэтыя абвінавачанні, як «Санта-Барбару», дый незалежная прэса напоўніцца абвяржэннямі і выклікамі Лукашэнкі ў суд ці на дуэль. А прэзідэнту толькі гэта і трэба. Зараз не менш чым на сілавікоў ён спадзяецца на сваю здольнасць надаць такой сур'ёзнай падзеі, як прэзідэнцкія выбары, рысы брыдкай клаўнады.

У мінулы раз было ламане дзвярэй і стрэлы па машыне, цяпер — біццё вокнаў і астранамічныя лічбы нібыта скрадзеных крэдытаў. Лукашэнка яўна разлічвае, што беларускія грамадзяне — міжвольныя гледачы гэтага ўжо бачанага спектакля — або заплюшчаць вочы, або выйдуць з глядзельнай залы, але не стануць зрываць дэкарацыі і закідваць рэжысёра тухлымі яйкамі. Што ў гэтых умовах зробіць апазіцыя, каб вярнуць сабе ініцыятыву, пакуль незразумела. Уражанне, што ўся апазіцыя зараз спадзяецца толькі на Віктара Ганчара, не развеяне.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*MASS MEDIA*

# Радыё «Бі-Эй»:
## цяпер толькі па-руску

Адно з найбольш папулярных сярод мінскіх радыёслухачоў *FM*-радыёстанцыяў — радыё «Бі-Эй» — перайшло на новы фармат вяшчання: уся музыка — толькі па-руску.

З 8 сакавіка кожны дзень на «Бі-Эй» замест англамоўных хітоў гучыць расійская «папса». Праграмны дырэктар радыёстанцыі Таццяна Мартынава так тлумачыць гэтую змену: «Кожны бізнес мусіць развівацца— інакш ён памрэ. «Бі-Эй», — гэта перш за ўсё камерцыйная станцыя, таму мы таксама мусім развівацца».

За апошнія некалькі гадоў у мінскім эфіры з'явілася шмат новых радыё, якія вельмі падобныя адно да аднаго. Таму «Бі-Эй» вырашыла пераарыентавацца і змяніць сваю палітыку вяшчання.

Таццяна Мартынава прывяла дадзеныя амерыканскай статыстыкі. Аказваецца, «сярэдняя» амерыканская камерцыйная радыёстанцыя, якая працуе на *FM*-дыяпазоне (дыяпазон ультракароткіх хваляў, які дазваляе на больш высокім узроўні трансляваць музыку, у тым ліку і ў рэжыме «стэрэа»), існуе 3 гады, пасля чаго ці змяняе фармат вяшчання, ці закрываецца. У Расіі не такая моцная канкурэнцыя на рынку музычных радыёстанцыяў — таму «сярэдні тэрмін жыцця» станцыі складае пяць гадоў. «Бі-Эй» у эфіры ўжо амаль шэсць гадоў (першая перадача станцыі прагучала 24 сакавіка 1993 года) — і, трэба разумець, таксама асэнсавала неабходнасць зменаў.

Як паведаміў генеральны дырэктар радыё «Бі-Эй» Яўген Шарашэўскі, вынікі шматлікіх сацыялагічных апытанняў паказалі: большасць слухачоў жадае пачуць менавіта музыку на роднай мове. Гэта цалкам адпавядае сусветнай канцэпцыі «Свая краіна, свая мова, свая музыка».

Таму кіраўніцтва «Бі-Эй» вырашыла круціць расійскія «поп-шэдэўры». Тым болей, што, на думку Таццяны Мартынавай, «расійская музыка па ўзроўні нічым не адрозніваецца ад заходняй». Што ж датычыць беларускіх выканаўцаў, у тым ліку і тых, хто спявае па-беларуску, то, па словах кіраўніцтва радыёстанцыі, яны ў прынцыпе гатовыя ставіць і такую музыку — але вельмі часта атрымліваецца так, што ці тэхнічны ўзровень запісу, ці «мастацкая каштоўнасць» беларускага твора не дацягваюць да стандартаў, прынятых на «Бі-Эй». І потым, па словах праграмнага дырэктара Таццяны Мартынавай, у Беларусі проста няма попыту на беларускіх выканаўцаў. Вось так «Бі-Эй» стала «радыёстанцыяй для тых, хто аддае перавагу рускай мове».

Галоўная канцэпцыя радыёстанцыі «Бі-Эй», сфармуляваная Яўгенам Шарашэўскім, — «радыё не павінна перашкаджаць». Яно можа гучаць проста фонам — але слухач не мусіць пераключацца на іншую хвалю.

На сённяшні дзень «Бі-Эй» чуваць у 120-кіламетровай зоне вакол Мінска, у двух ультракароткіх дыяпазонах («заходнім» — *FM* 104,6 і «савецкім» — УКХ 68,84). Аднак плануецца, што да 10 кастрычніка гэтага года «Бі-Эй» можна будзе пачуць ва ўсіх беларускіх рэгіёнах.

Тым не менш, не ўсё так добра на «Бі-Эй», як падаецца. Зусім нядаўна радыё пакінула больш за дваццаць чалавек, у тым ліку — ды-джэі, якія доўгі час стваралі імідж «Бі-Эй». Яны пайшлі, каб стварыць новую станцыю — «Альфа-радыё».

На чале новай станцыі стаў вядомы дыджэй Сяргей Кузін. Ён даў невялікае інтэрв'ю карэспандэнту НАВІНАЎ.

*— Сяргей, чаму вы разам з іншымі пакінулі «Бі-Эй», дзе вас так добра ведалі слухачы?*

— Прычына даволі банальная: творчыя непаразуменні. Мы не маглі больш працаваць у той атмасферы, якая склалася на «Бі-Эй». Зрэшты, мы ўсё роўна любім гэтае радыё, яно для нас па-ранейшаму роднае.

*— Калі пачне вяшчаць «Альфа-радыё», што гэта будзе за станцыя?*

— 21 сакавіка, роўна ў 9 гадзінаў настройцеся на хвалю 107,9 — і самі ўсё пачуеце. Мы, гэтак мовіць, «афісная» радыёстанцыя: для эканамістаў, бізнесменаў, навукоўцаў — высокаадукаваных людзей, якім не трэба нічога асабліва тлумачыць, яны і так усё добра ведаюць. Ну і, канешне, будзе шмат добрай музыкі — хіты XX стагоддзя: як замежныя, так і расійскія, беларускія.

*— Чым асаблівым вы збіраецеся вылучыцца з шэрагу іншых станцыяў гэтага ж дыяпазону?*

— Нічым. Мы проста будзем круціць якасную музыку. Калі мы апынемся напярэдадзе, гэта будзе добра.

Кіраўніцтва «Бі-Эй» тлумачыць сыход людзей ад іх «творчымі і тэхнічнымі рознагалоссямі». У неафіцыйных размовах супрацоўнікі «Бі-Эй» сцвярджаюць, што сыход быў абстаўлены «зусім не-па-джэнтльменску». Як бы там ні было, у эфіры «Бі-Эй» цяпер з'явілася шмат новых імёнаў, і генеральны дырэктар Яўген Шарашэўскі спадзяецца, што новая каманда не такіх амбіцыёзных ды-джэяў паспрые далейшаму развіццю «Бі-Эй».

Што ж датычыць «Альфа-радыё», то з'яўленне ў эфіры яшчэ адной станцыі падвышае канкурэнцыю, што спрыяе паляпшэнню працы радыёстанцыяў, падвышае стандарты якасці і, ў канчатковым выніку, ідзе на карысць нам, слухачам.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*ЧЫТАЦКАЯ ДУМКА*

# Нет воли к власти

В НАВІНАХ (и в других газетах) публикуется много полезных статей, объективно оценивающих ситуацию в РБ (можно сказать, уже вошедших в историю для дальнейшего изучения). Но у всех авторов страх, главное, чтобы нигде не проскочил даже в завуалированной форме призыв к смене власти. Этим сказано все. Согласитесь, А.Г. доказал всем и своему окружению, что мы быдло. Даже выборы, назначенные на 16 мая, есть ничто иное, как призыв к свержению власти. И тем более идет постоянное подтверждение авторами-демократами этой истины А.Г. (о нас). Кого призывать? За кого молвить слово? Следует ответ: универсальных рабов в РБ, для которых главное иметь комплектующие детали (и тогда будет работа), или жителя РБ, который за стакан водки готов лечь под любого. А дальше? РБ не может быть самостоятельной и замуж за мужчину не выйдет, а станет невестой России на самых унизительных условиях. А сценарий (знают, что будет) следующий. До 16 мая вы, демократы, будете бояться собственной тени. На ключевые посты, особенно в армию, придут российские генералы. Зеленый свет дан. И ядерное оружие в скором времени будет в РБ. Намеченное А.Г. никогда не срывалось.

Уважаемые демократы! Берите пример с А.Г., милиции, КГБ, правительства, В.И.Ленина. Крамолы нет. Проверено временем. Живая книга, образец, пособия, путеводитель. Каждый может быть партией. Зачем митинги, протесты? Чего добились? Одумайтесь! Это вам не Запад, который может только посочувствовать. Здесь парадным маршем не пройдешь. Беда в том, что вы не заражены вирусом власти и блудословием, в руках нет рогатины, поэтому вас и назвал А.Г. — дермократами.

**Л.ЗЕНЬЧИК,** *г.Минск*

# Беларускія разборкі ў амерыканскім Кліўлендзе

## Белыя у фінансавым трылеры (ліст на Беларусь)



Шаноўныя аўтары й чытачы часопіса «Полацак» на Бацькаўшчыне й у замежжы!

Мая мара зьдзейсьнілася, калі ў студзені 1991 г. выйшаў першы нумар часопіса «Полацак». Беларуская эміграцыя мае даволі багатую бібліяграфію перыядычных выданьняў, але ў гэтым сьпісе часопіс «Полацак» зойме асобае мейсца, бо ўпершыню стаў выдаваццa часопіс, які творча аб'яднаў беларускую эміграцыю з метраполіяй. Сталася гэта дзякуючы зьмене ў палітыцы ўраду БССР да эміграцыі: дазволу беларусам Бацькаўшчыны прыехаць у 1990 г. на XIX Сустрэчу беларусаў, якая адбылася ў Кліўлендзе. Карыстаючыся такою нагодаю, я запрапанаваў некаторым інтэлектуалам эміграцыі й прадстаўнікам зь Менску супольна выдаваць часопіс «Полацак», маючы надзею, што беларуская калёнія Кліўленду зафінансуе яго выданьне.

Сьвятлана Белая згадзілася часова застацца ў Кліўлендзе й набіраць тэкст часопіса на камп'ютары за 500.00 даляраў нумар. Яна мела турыстычную візу на 6 месяцаў. Каб прадоўжыць побыт С.Белай у ЗША і каб яна змагла атрымаць «грын» карту, С.Белую зрабілі рэдактарам часопіса «Полацак».

Polacak

Published with the financial support of parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.

Друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, г. Кліўленд, штат Агаё.

Рэдакцыйная калегія: Сьвятлана Белая (рэдактар), Міхась Белямук (сакратар), Янка Салаванюк (мастак), сябры — Сяргей Карніловіч, Іна Кахановуская, Вольга Дубаневіч (МакДэрмат), Лідзія Лазар-Ханенка, Янка Ханенка.

Ганаровыя сябры рэдкалегіі: Анатоль Белы, Іосіф Юхо.

*Склад рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полацак» у 1991 годзе*

Часопіс «Полацак» выдаваўся ад студзеня 1991 г. да ліпеня 1994 г. рэгулярна. За гэты пэрыяд выйшла 35 нумароў, колькасьць друкаваных старонак — 2.200. У рэдакцыйнай калегіі часопіса было да паловы 1993 г. 8 асобаў, зь іх 6 асобаў — пасыўныя. Субсідавала выданьне часопіса да лютага 1994 г. парафія Жыровіцкае Божае Маці, выплаціўшы 21.800.00 даляраў. С.Белай за набор часопісаў я выплаціў 16.500.00. У часопісе надрукаваныя лісты, дакументы, публіцыстыка, навуковыя артыкулы — гістарычныя, археалягічныя, нумізматычныя, сфрагістычныя — успаміны, песьні, паэзія, проза, прывітаньні й хроніка. Часопіс быў ілюстраваны фатаграфіямі, некаторыя зь іх — унікальныя. Шмат зьмешчана ў часопісе мастацкіх твораў, асабліва графічных, выкананых мастакамі Беларусі для часопіса «Полацак». Аднак ахілесавай пятой часопіса была мова. Атрымліваў лісты з папрокамі адносна правапісу, не беларускай будовы сказаў, русізмаў, стылёвых (а іншы раз і фактычных) недакладнасьцяў ды іншых памылак.

Паколькі Тамара Новікава зь Менску згадзілася выйсьці за мяне замуж, выглядала,



*А.Я.Белы*

што й гэтыя праблемы будуць палагоджаныя. Тамара — філолаг, працавала на пасадзе дацэнта, выкладала мэтодыку беларускае мовы ў ГІУН. Яна згаджалася быць карэктарам мовы часопіса «Полацак» і актыўна дапамагаць у выданьні часопіса.

Белыя, выглядае, інакш глядзелі на справу часопіса. Іх непакоілі матэрыяльныя праблемы. Яны былі перакананыя, што, ажаніўшыся, я больш ня буду «дойнай кароўкай». Цяпер яны ня змогуць так часта прыязджаць у ЗША і быць на маім утрыманьні. Я, едучы ў Менск, перастану прывозіць ім наладаваныя валізкі падарункамі й даляры. Кожная мая ранейшая паездка (а быў я 5 разоў) каштавала 1.200.00 даляраў, ня ўлічваючы білет на самалёт. Аднак самае галоўнае ў іх плянах было тое, што Валера з Сьвятланай, ажаніўшыся, будуць жыць у маёй кватэры на маім утрыманьні, а пазьней могуць стаць спадкаемцамі маёй маёмасьці. Калі 27 ліпеня 1994 г. мітрапаліт Філарэт абручыў мяне з Тамараю, Валера паўстрымаўся ехаць у ЗША, нягледзячы, што Сьвятлана была цяжарнай (нарадзіла сына 10 сьнежаня). Калі я пазьней сустрэўся з Анатолем Белым, ён, абураны маім абручэньнем, папракнуў: «Дык што-ж, цяпер, відаць, усё застанецца Тамары?» З жніверня 1994 г. я з Тамараю прыехаў у Кліўленд. Наступны дзень адбылася размова з Сьвятланаю Белай. Мы запрапанавалі ёй заставацца жыць з намі два тыдні на поўным нашым утрыманьні. Яна згадзілася.

6 жніверня 1994 г. я з Тамараю паехаў у горад. Вярнуліся мы вечарам і пабачылі, што С.Белая з дапамогаю Янкі Ханенкі й Янкі Раковіча, карыстаючыся нашай адсутнасьцю, забрала ня толькі свае рэчы, але ўкрала друкарскія прылады — камп'ютар, манітор і прынтар, што былі куплены за мае грошы 8 жніверня 1991 г. Забрала яна зь Я.Ханенкам прынтар, купленны за грамадзкія грошы 15 верасьня 1993 г. (гл. «Полацак» № 27, стар.61). Пакралі касеты маіх выступленьняў і размоваў канфідэнцыяльных з беларусамі ЗША і Беларусі. Не абмінулі забраць фатаграфіі, некаторыя унікальныя. Украла С.Белая з шуфляды мае ўласныя 350.00 даляраў наяўнымі ды чэкі прыблізна на 1.500.00 даляраў, прысланыя на маё імя для выданьня часопіса «Полацак». Ня буду пералічаць усяе пакражы, але не магу прамаўчаць дзвюх пакражаў — калекцыйны залаты, 24 каратаў, медальён, вартасьць якога сёньня ад 10.000.00 да 15.000.00 даляраў і тэстамэнт, напісаны ў чэрвені 1993 г. У выпадку маёй сьмерці Белыя атрымалі-б прыблізна 50.000.00 даляраў. Пакража тэстамэнту сьведчыць пра менталітэт Белых.

Крадзеныя рэчы завезьлі на перахаваньне да Кастуся Калошы, які пратрымаў некалькі тыдняў і аддаў С.Белай, не беручы пад увагу мае тлумачэньні, што друкарскія прылады — мая ўласнасьць. Чэкі, забраныя С.Белай, таксама Кастусь Калоша 3—5 верасьня на XXI Сустрэчы беларусаў у Канадзе прасіў людзей перапісаць для Белай, выяўляючы гэтым апрабату пакражы.

На крадзяжы С.Белая не спынілася. У канцы жніверня Белыя выключаюць мяне з рэдакцыйнае калегіі часопіса «Полацак», на выданьне якога я не шкадаваў энэргіі й здароўя. У цывілізаваным сьвеце, выключаючы, пісьмова паведамляюць прычыны выключэньня і даюць мажлівасьці для апраўданьня ды абароны чалавечай годнасьці. Пра тое, што мяне выключылі, я даведаўся, калі выйшаў «Полацак» № 36. Але ні ў часопісе № 36, ні ў № 37 не было тлумачэньня, за што мяне выключылі.

Ад жніверня 1990 г. да жніверня 1994 г. С.Белая была на поўным маім утрыманьні. Шанаваў я яе як родную ўнучку. Стараўся стварыць для яе такія ўмовы жыцьця, каб яна ахвотна набірала часопіс. За 4 гады ў яе стала столькі абутку, вопраткі й біжутэрыі, як у жанчын, што пражылі тут 40 год. Яна не працавала, хадзіла ў школу 4 разы на тыдзень, вывучала ангельскую мову ад 9 раніцы да 14.30. Два разы на тыдзень прыходзіла настаўніца дамоў і пэрсанальна з Сьвятланай каля 3 гадзінаў займалася ангельскай мовай. Вось чаму яна змагла добра авалодаць



*С.А.Белая*

ангельскаю моваю й атрымаць стыпэндыю ў каледжы. Грошы за набор часопісаў клала ў банкі, на яе банкаўскіх контах у травені 1994 г. было прыблізна 8.800.00, не ўлічваючы 8.000.00 даляраў, якія яна атрымала ад мяне 4 жніверня 1994 г.

29 верасьня 1994 г. Сьвятлана Белая пасылае шмат якім падпісчыкам часопіса «Полацак» паклёпніцкі ліст на мяне і маю жонку Тамару. У ім яна зьвінавачвае мяне ў прысваеньні яе й грамадзкіх грошай. Піша: «не вярнуў мне таксама 2.500.00, якія мне належалі за наборку №№ 31, 32, 33, 34, 35 часопісаў». Я, ад'язджаючы ў Менск 2 чэрвеня 1994 г., выплаціў ёй наяўнымі 550.00, а, вярнуўшыся зь Менску, 4 жніверня 1994 г. даў чэк на 8.000.00, бо яна патрабавала аплаціць залегласьць за наборку часопісаў, улічаючы нумары 31, 32, 33, 34, 35.

Далей С.Белая піша: «Белямук ня ўклаў у часопіс ні цэнта». Прашу пацікавіцца, колькі грошай мне каштавала выданьне часопіса, паглядзіце «Полацак» № 10 за 1991 г., № 29 за 1992 г., № 30 за 1993 г. Калі ў лютым 1994 г. парафія Жыровіцкае Божае Маці спыніла фінансавую субсідыю часопісу, то «Полацак» №№ 32, 33, 34, 35 былі выдадзеныя за грамадзкія (ахвярадаўцаў і падпішчыкаў) грошы й за мае грошы. Кошт аднаго нумара 1.500.00—1.550.00, улучаючы плату С.Белай за наборку. У той час я зьвярнуўся зь просьбаю, каб Сьвятлана хаця адзін нумар часопіса набрала дарма — яна катэгарычна адмовілася.

Ф2" з лінзамі вартасьцю каля 2000.оо, каб Анатоль змог рэгістраваць падзеі на плёнку й прысылаць іх у часопіс "Полацак". Няўжо інтарэсы грамадзка-палітычныя перастануць для іх існаваць?.. Няўжо справы асабістыя заглушаць пачуцьцё этыкі й хрысьціянскай маралі?.. Жыцьцё пацьвердзіла, што Белыя супрацоўнічаюць, пакуль маюць асабістую карысьць. У сувязі з гэтым узьнікае пытаньне, ці будуць хцівасьць, нахабнасьць і мсьцівасьць праяўленыя Белымі, талераваны беларускім грамадзтвам. Калі грамадзтва гатовае талераваць такія заганы, то сумніўна, каб у ім запанавалі хрысьціянскія этычныя прынцыпы.

З вялікай пашанаю да Вас

Міхась Белямук

*Арыгінал ліста М.Белямука*

Таксама яе папрок у мой адрас: «шчырыя і сумленныя беларусы, сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны, ахвярна прысылалі (грошы) для выдавецтва часопіса». Безумоўна, што яны — ахвярадаўцы й падпішчыкі — патрыёты, як і аўтары й мастакі, што прысылалі свае працы і творы, не патрабуючы платы, але Сьвятлана Белая аднаго нумара дарма не набрала. Нават калі мы ішлі ў царкву, патрабавала ад мяне грошы, каб пакласьці на ахвяравальную талерку й купіць свечкі.

Шаноўныя аўтары й чытачы часопіса «Полацак»! Арганізуючы й выдаючы часопіс, я меў надзею, што закладзены падмурак будзе трывалым, што часопіс «Полацак» будзе мастком паміж Амэрыкай і Эўропай, мастком, на якім спатыкаюцца беларусы далёкага замежжа з беларусамі метраполіі для творчага супрацоўніцтва. Гэты масток сёньня разбураны Белымі.

За мае шчырыя адносіны да іх я атрымаў ад іх плату: яны мяне абакралі, выкінулі з рэдакцыйнае калегіі, напісалі паклёпніцкі ліст, зьмясьцілі абразьлівы артыкул у «ЛіМе». Чым-жа я правініўся? Ці пра-



*Міхась Белямук*

ва ня маю падумаць пра асабістае жыцьцё?.. Амаль 50 год свайго жыцьця аддаў я грамадзкай працы, застаючыся на чужыне без сям'і. Старасьць мая, як кожнай асобы, не прадбачаная. Я ўвесь час марыў сустрэць жанчыну, якая падзяляла-б са мною гора й радасьць, мае навуковыя захапленьні, маю самаахвярнасьць у грамадзкай працы і дасьледваньні беларускае мінуўшчыны. Я пазнаёміўся ў Менску з Тамараю, мітрапаліт Філарэт нас абручыў. І штож тут крамольнага?

Дазвольце расказаць гутарку ў рэзыдэнцыі мітрапаліта Філарэта. Калі папрасіў я Уладыку абручыць нас, Анатоль Белы запратэставаў: «Уладыка, не рабіце гэтага». Мітрапаліт спытаў: «Чаму-ж мне гэтага нельга рабіць?» А.Белы: «Тамара не хрышчаная». Уладыка: «Калі так, то ахрысьцім». А.Белы: «Яна жыдоўка». Мітр.Філарэт: «Яўрэі людзі таксама, а калі захоча быць праваслаўнай, то перахрысьцім. А вы, Анатоль Яфімавіч, не забывайце, што я мітрапаліт». Калі мы выйшлі ад мітрапаліта, спытаў Белага: «Анатоль, я ад цябе, сябра, гэтага не чакаў. Чаму ты безпадстаўна зьневажаеш Тамару?» А.Белы адказаў: «Мая справа, чаму Філарэту сказаў. Табе скажу, па маім трупе ажэнішся з Тамарай».

Для мяне стала ясным, што чакаюць мяне непрыемнасьці. Затрывожыўся лёсам часопіса. Няўжо пачнуць мсьціцца, ды завошта?.. Тры разы Анатоль гасьціў у мяне, жонка ягоная Ала таксама прыязджала, Сьвятлана атрымала «грын» карту й адведала бацькоў у лютым-сакавіку. Кожны зь іх, ад'язджаючы ў Менск, вёз нагружаны валізкі, і я з выдаткамі не лічыўся, каб толькі часопіс выходзіў. Гэтым разам прывёз і аддаў фатаграфічны апарат «Нікан-Ф2» з лінзамі вартасьцю каля 2.000.00, каб Анатоль змог рэгістраваць падзеі на плёнку й прысылаць іх у часопіс «Полацак». Няўжо інтарэсы грамадзка-палітычныя перастануць для іх існаваць?.. Няўжо справы асабістыя заглушаць пачуцьцё этыкі й хрысьціянскай маралі?.. Жыцьцё пацьвердзіла, што Белыя супрацоўнічаюць, пакуль маюць асабістую карысьць. У сувязі з гэтым узьнікае пытаньне, ці будуць хцівасьць, нахабнасьць і мсьцівасьць, праяўленыя Белымі, талераваны беларускім грамадзствам. Калі грамадзства гатовае талераваць такія заганы, то сумніўна, каб у ім запанавалі хрысьціянскія этычныя прынцыпы.

З вялікай пашанаю да Вас

**Міхась БЕЛЯМУК**

*17 студзеня 1995 г.*

***Ад рэдакцыі***

Свой ліст сп.М.Беламук заслаў на Беларусь ва ўсе беларускамоўныя рэдакцыі ў 1995 годзе. Ліст не быў апублікаваны, бо рэдакцыі палічылі за блага выносіць смецце з асяроддзя інтэлігенцыі на агляд народа. А.Белы, хоць і займеў тады непрыгожы цень, аднак не мусіў публічна адбельвацца ад абвінавачванняў. Зараз ён можа гэта зрабіць, калі мае копію іскавай заявы ў суд г.Кліўленда (ЗША) ў абарону свайго гонару. Рэдакцыя надрукуе такі дакумент без скарачэнняў.

